© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr



# Ніва



№ 31 (127) БЕЛАСТОК, 3 ЖНІЎНЯ 1958 г. ГОД III

## Родныя краявіды



*Гарадок ля Беластока. Побач старэнькіх домікаў растуць новыя дамы, у якіх будуць жыць рабочыя гарадоцкіх прадпрыемстваў.*

*Фото — а.ц.*

# Да справы
## трэба падыходзіць па гаспадарску

З пачаткам кожнага новага навучальнага года, нямала клопатаў маюць дзеці, а з імі і бацькі, пры закупах неабходных падручнікаў на беларускай мове. Чаму гэта так?

Некаторыя могуць адказаць, што гэта няпраўда. Ды-ж падручнікаў ёсць удоваль. Гэта то яно праўда, што падручнікаў надрукавана дастаткова, калі разыходзіцца аб пачатковыя школы. Але нажаль, іх у нашых кнігарнях не хапае. Калі і былі якія-небудзь, дык не заўсёды яны былі дасасаваны да праграмаў навучання, або позна выкладаліся на паліцы ў кнігарнях.

І што-ж у такім выпадку заставалася рабіць? Часцей за ўсё дзеці куплялі падручнікі на польскай мове. А калі ўжо кніжкі былі куплены — настаўнікі і загадчыкі школ ставалі перад фактам дакананым. Трэба было пераводзіць навучанне некаторых прадметаў з беларускай мовы па польскую. Школа тады пераўтваралася ў школу ні з польскай мовай навучання, ні з беларускай. І шукалі тады вінаватых. А знайсці іх не заўсёды было так лёгка. Ды і часта на гэта махалі рукой. Гаварылі, што нейк там будзе. І вось гэтае «нейк» — было заўсёды клінам у нашай асвеце. Таму шмат школ пацярпела. Каб пазбегнуць падобных недахопаў на будучыню, тут неабходна падумаць ужо цяпер, аб запаўненні паліц у кнігарнях беларускімі, падручнікамі.

У гэтым годзе ўжо некаторыя аддзелы асветы ППРН зложылі патрабаванне на беларускія падручнікі для сваіх паветаў. Бельск - Падляскі — 660 падручнікаў, а Гайнаўскі — 1.350. А калі іншыя аддзелы аб гэтым падумаюць?

Трэба адзначыць, што ў некаторых кнігарнях ёсць запасы з мінулых гадоў. Аднак не ўсе камплеты можна знайсці. І вось, таму неабходна папоўніць недахопы. А падручнікаў нам трэба шмат, калі возьмем пад увагу колькасць дзяцей, якія вучацца ў беларускіх школах або вывучаюць беларускую мову як прадмет.

У мінулым навучальным годзе, беларускую мову вывучала 9.165 вучняў. Гэты лік гаворыць сам за сябе. А каб не паўтараць памылак мінулага, трэба справу наладзіць. Перш за ўсё адказны тут аддзелы асветы, загадчыкі кнігарняў, настаўнікі і загадчыкі школ.

Падручнікаў ёсць шмат на складах. Адно толькі — трэба іх давесці вучням у рукі, гэта значыць, каб вучні мелі магчымасць купіць усе падручнікі ў мясцовых кнігарнях і кіёсках. Нельга гэтага пускаць на самапас. Да справы трэба падыходзіць па-гаспадарску.

М. КАЛЯДКА
Інструктар ГП БГ-КТ

## Выданні да 40-годдзя БССР

Да 40-й гадавіны ўтварэння Беларускай рэспублікі выдавецтва Акадэміі навук БССР выпусціць з друку некалькі цікавых кніг. Сярод іх — «Гісторыя Беларусі», том 2, які ахапляе перыяд ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да нашых дзён, уключаючы найбольш цікавыя падзеі 1958 года, «Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі», падрыхтаваная калектывам інстытута філасофіі, і кніга С. Маргунскага «Стварэнне і ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці. 1917 — 1922 гг.».

За мінулыя поўгода выдавецтва выпусціла 58 назваў кніг і зборнікаў агульным аб'ёмам 715 друкаваных аркушаў. Да канца года выйдзе з друку яшчэ 35 назваў, у тым ліку такія кнігі, як «З гісторыі барацьбы за распаўсюджанне марксізма ў Беларусі (1883 — 1917 гг.)», Н. Алексютовіча — «Светапогляд Г. Скарыны», Д. Радзюка — «Па шляху вялікага ўздыму», Ул. Няфёда — «Гісторыя беларускага тэатра», М. Крукоўскага — «Роля рускай мовы ў абагачэнні лексікі беларускай літаратурнай мовы» і іншыя.

## Выяўленне помнікаў беларускай пісьменнасці

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа збірае рэдкія помнікі беларускай пісьменнасці. Многія з іх выяўлены ў бібліятэках і архівах Масквы, Рыгі, Вільнюса і Ленінграда.

Значную цікавасць уяўляюць рукапісныя граматы XIII—XV стагоддзяў. Гэта найбольш старадаўнія дакументы, якія дазваляюць прасачыць гісторыю развіцця мовы. Нядаўна атрымана фотакопія яшчэ адной старадаўняй граматы. Яна адносіцца да 1498 года.

Цяпер інстытут мае ў выглядзе фотакопій і мікрафільмаў усе выданні беларускага першадрукара Георгія Скарыны. У фондзе ёсць яго кнігі: «Біблія», «Апостал», «Малая падарожная кніжыца», «Псалтыр» і іншыя. Да больш позняга часу адносіцца «Граматыка» Лаўрэнція Нізанія. Яе копія атрымана з Ленінграда. У пухлай папцы захоўваецца «Гісторыя аб Варлааме і Іасафе». Гэтая аповесць датыруецца 1637 годам. Яна была надрукавана ў Беларусі ў Аршанскім куцеінскім манастыры.

Многія старадрукаваныя кнігі былі і раней вядомы даследчыкам, чаго нельга сказаць аб рукапісах. Інстытут выявіў рад малавядомых і зусім невядомых матэрыялаў. Зборнік, названы «Рымскі летапісец», змяшчае творы «Александрыя» і «Аповесць аб Троі». Другі твор стаў вядомым толькі цяпер. Гістарычная аповесць «Александрыя» расказвае аб паходах Аляксандра Македонскага. Даследчыкі рыхтуюць яе да друку.

У падрыхтаванай інстытутам «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» упершыню будзе апублікаван рад малавядомых і невядомых рукапісаў, у тым ліку гістарычныя хронікі і драматычныя творы.

(БЕЛТА).

## Сумесная нарада беларускіх і польскіх вучоных

У Мінску ў Інстытуце торфу Акадэміі навук БССР закончылася сумесная нарада вучоных Беларусі і Польшчы.

З дакладамі, у якіх асвятляліся пытанні выкарыстання торфу ў прамысловасці сельскай гаспадаркі, выступілі беларускія і польскія вучоныя. У паведамленнях навуковых работнікаў Беларусі была ўдзелена вялікая ўвага праблемам вывучэння і выкарыстання торфу, як хімічнай сыравіны.

Дырэктар па навуковай частцы інстытута торфу ў Эльблонгу, прафесар Мар'ян Ніклеўскі і яго калегі агледзелі лабараторыі Мінскага інстытута, наведалі тарфяную даследчую станцыю, выязджалі на прадпрыемства «Усяж» і торфабрыкетны завод.

Вучоныя Польшчы і Беларусі дамовіліся аб умацаванні дзелавых сувязей, аб сумесных работах па вывучэнню і выкарыстанню торфу, аб абмене навуковымі працамі.

## Адкрытая бібліятэка БГ-КТ

Пры Гарадскім аддзеле БГ-КТ у Беластоку на вуліцы Маніфесту Ліпнёвага №25 адкрыта бібліятэка, якая мае шмат розных кніжак. Хто хоча ёю карыстацца, павінен унясці ўклад у суме 5 зл.

Бібліятэка адкрыта ў кожны панядзелак ад 16—19 гадзіны.

## Камісія па справах культуры нацыянальных меншасцей

Нядаўна ў Міністэрстве культуры і мастацтва была паклікана камісія па справах культуры нацыянальных меншасцей.

Першае пасяджэнне камісіі прысвечана было азнаямленню яе членаў з актуальнымі праблемамі культурнага жыцця паасобных нацыянальных меншасцей у нашай краіне.

## Новы клуб

У Сукавічах (Сакольскі павет), нядаўна адкрыта новы клуб. Будынак даўжынёй 12 метраў і шырынёю каля 8 метраў нядаўна пабудавалі жыхары вёскі. Найбольш працы пры гэтай будове ўлажыў Браніслаў Чарэмха. Цяпер ёсць дзе сабрацца для моладзі, патанцаваць, паспяваць і г. д.

## У Аўстраліі жывуць беларусы

У мінулым тыдні наша рэдакцыя атрымала ліст ад свайго чытача з Аўстраліі. Між інш. піша ён, што ў іх мясцовасці ёсць шмат беларусоў. Маюць яны царкву і свайго святара. (мб)



*З кожным днём Беласток прыгажэе. Растуць новыя дамы. На здымку: новыя дамы пры вул. Дамбройскага*

*Фото — Л. Каралейскі*

## Пасяджэнне ГП БГ-КТ

28 ліпеня г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Гал. Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Беластоку.

На пасяджэнні была разгледжана дагэтуляшняя праца «Нівы» і Выдавецкага Аддзела. Па гэтых справах вынесена адпаведныя пастановы, якія дапамогуць у пашырэнні беларускага друку ў Польшчы. (мб)

## У Н'ю-Иорку больш італьянцаў чым у Рыме

Н'ю-Йорк з сваімі 12 мільёнамі насельніцтва не толькі з'яўляецца найбольшым горадам свету, але для многіх нацый — цэнтрам, у якім пражывае насельніцтва данай нацыі больш, чымся ў найбольшых гарадах у сваёй бацькаўшчыне. Напрыклад у Н'ю-Йорку больш італьянцаў чым у Рыме, больш немцаў, чым у Гамбургу і больш ірландцаў чым ва ўсёй Ірландыі.

## Вечар у гонар дзвюх гадавін

12 ліпеня г. г. Варшаўскія аддзелы Таварыства польска-савецкай дружбы, Беларускага грамадска - культурнага таварыства, Літоўскага грамадска - культурнага таварыства, Рускага культурна - асветнага таварыства, Грамадска - культурнага таварыства чэхаў і славакаў і Украінскага грамадска - культурнага таварыства наладзілі ўрачысты вечар у гонар гадавіны грунвальдскай бітвы і 15-годдзя прынцця прысягі Касцюшкоўскай дывізіяй. Між іншымі, на вечары прысутнічаў былы камандзір Дывізіі — генерал Берлінг.

© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

